


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

14 кастрычніка 2016 года №42 **(1120)**




14 кастрычніка –Дзень маці

# Чацвярня з Ашмянаў: у Дзень маці віншуем маму ў чатыры галасы




старонка 21

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

## "Супраць, каб каралі кіроўцу і настаўніка"

МАЛАДЗЕЧНА

**Бацька загінулай школьніцы патрабуе спецрасследавання.**

Бацька загінулай падчас збору бульбы школьніцы звярнуўся да начальніка Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Мінпрацы і сацабароны. **Алег Папчэня** просіць правесці з яго ўдзелам спецыяльнае расследаванне няшчаснага выпадку.

29 верасня падчас выканання сельскагаспадарчых работ у СВК "Усход-агра" загінула вучаніца 8-га класа сярэдняй школы №11 Маладзечна, 13-гадовая **Вікторыя** – на яе наехаў грузавік. Ад атрыманых траўмаў дзяўчынка памерла. На месцы здарэння працавала следча-аператыўная група. Маладзечанскі раённы аддзел СК распачаў справу па прыкметах злачынства, прадугледжанага артыкулам "Парушэнне правілаў дарожнага руху і эксплуатацыі транспартных сродкаў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека".

Як паведаміў БелаПАН гомельскі праваабаронца, прававы інспектар незалежнага прафсаюза РЭП **Леанід Судаленка**, які дапамог бацьку загінулай скласці заяву, наймальнік дапусціў дзіця да выканання забароненай працы.

"Пачаліся фактычныя працоўныя адносіны з усімі юрыдычнымі наступствамі, што адсюль вынікаюць. Згодна з часткай 2 артыкула 25 Працоўнага кодэкса, фактычнае дапушчэнне работніка да працы з'яўляецца пачаткам дзеяння працоўнага дагавора незалежна ад таго, ці быў прыём на працу належным чынам аформлены.

Наймальнік, СВК "Усход-агра", перад выкарыстаннем працы 13-гадовага дзіцяці быў абавязаны выдаць загад аб прыёме дзіцяці на працу, аб яго допуску да выканання працы з абавязковым указаннем нормаў выпрацоўкі, працягласці штодзённай працы і аплаты працы; заключыць з дзіцем у пісьмовай форме працоўны дагавор на час выканання сезонных работ", – піша ў заяве Алег Папчэня.

Акрамя таго, наймальнік быў абавязаны запатрабаваць медыцынскае заключэнне аб стане здароўя і прызнанні дзіцяці прыгодным да выканання сельгасработ, звязаных з перамяшчэннем цяжару ўручную і ўзняццем цяжару на вышыню, а таксама правесці з дзіцем уводны інструктаж па ахове працы і тэхніцы бяспекі падчас выканання работ і прызначыць адказнага за бяспеку дзіцяці на сельскагаспадарчай вытворчасці. Таксама наймальнік павінны быў застрахаваць дзіця ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці, звязаной у тым ліку з эксплуатацыяй машын.

Леанід Судаленка дадаў, што Вікторыя была адзіным дзіцем у сям'і.

"На полі з класам быў нават не класны кіраўнік, а іншы настаўнік. Бацька кажа, што супраць таго, каб каралі кіроўцу і настаўніка. Кажа, што трэба караць тых, хто іх туды адправіў".

Яму 42 гады, працуе ў кацельні. Маці таксама рабочая, працуе на перапрацоўцы і ўтылізацыі пластмасы. Калгас маўчыць, чакі на пахаванне аплаціла школа", – расказаў праваабаронца. Ён дадаў, што, паводле слоў бацькі, у Вікторыі не было інваліднасці, як заяўлялі некаторыя.

Як адзначыў Судаленка, бацька загінулай дзяўчынкі заявіў, што "не хоча жыць за кошт свайго дзіцяці", але пагадзіўся падпісаць заяву. "Калі будзе распачатае спецыяльнае расследаванне, сям'і належаць выплаты. Аднаразовая – 12 сярэднямесячных зарплат па гаспадарцы, гэта каля 3,6 тысячы рублёў новымі. Маральную шкоду можна запатрабаваць у суме каля 20 тысяч рублёў.

Таксама ў генеральным пагадненні ёсць норма аб выплаце 10 сярэднегадавых заробкаў, гэта значыць каля 36 тысяч рублёў. У суме сваякам рэальна атрымаць каля 60 тысяч рублёў", – патлумачыў прававы інспектар.

Паводле яго слоў, аднаразовую выплату павінны зрабіць "Белдзяржстрах", кампенсацыю маральнай шкоды – СВК, паводле Генпагаднення – таксама прадаадаўца. "Аднак для ўсяго гэтага патрэбны акт формы Н-1 аб тым, што няшчасны выпадак вытворчы, без яго ніякіх выплат не будзе. І для гэтага трэба спецрасследаванне дэпартамента па працы", – растлумачыў Леанід Судаленка.

Варта адзначыць, што раней Судаленка дамогся перамогі ў справе траўмаванага на Гомельскім хімзаводзе рабочага – працэс доўжыўся больш за чатыры гады.

"Наша ніва"
паводле БелаПАН.

# "Фестывальнаму" абяцаюць даць ваду ў лістападзе

МАЛАДЗЕЧНА

**У раёне індывідуальнай забудовы "Фестывальны" абяцаюць падключыць ваду ў лістападзе. Пра гэта паведамілі на планёрцы Маладзечанскага райвыканкама 4 кастрычніка.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Сёлета 30 ліпеня жыхары-забудоўшчыкі сустрэліся, каб падпісаць зварот прэзідэнту з просьбай даць ваду.

Намеснік старшыні райвыканкама **Вадзім Цар** пацвердзіў, што жыхарам ваду падключаць у лістападзе. Ён удакладніў, што затрымку з водазабеспячэннем выклікалі складанасці з фінансаваннем.

Адзін з жыхароў "Фестывальнага" **Сяргей Вярбіцкі** ўспрыняў навіну адначасова і з надзеяй, і з асцярогай. Усё ж забудоўшчыкі чакалі водазабеспячэння пяць год, і тэрмін падключэння некалькі разоў пераносілі.

"Рэгіянальная газета" раней паведамляла, што забудоўшчыкі збіраліся 30 ліпеня для таго, каб падпісаць зварот да прэзідэнта з просьбай пасадзейнічаць у пытанні водазабеспячэння. У раёне індывідуальнай забудовы гэта была самая пільная праблема: без вады цяжка весці будоўлю, што ўжо казаць пра перасяленне.

> **У раёне забудовы "Фестывальны" занятыя каля 150 участкаў пад будаўніцтва.**

Калі ваду паспеюць даць у лістападзе, забудоўшчыкам неабходна будзе атрымаць тэхнічныя ўмовы і выканаць праектныя работы. Па ацэнках Сяргея, праца праекціроўшчыкаў зойме 1-2 тыдні, а самі работы можна паспець выканаць за дзень. Таму ён спадзяецца разам з сям'ёй планаваць пераезд пад новы год.

– На мінулым тыдні далі газ, хаця і па дарагім тарыфе. Калі і ваду дадуць, можна ўжо будзе жыць, – гаворыць забудоўшчык.

Але ў жыхароў ёсць пытанне: адна вуліца па праекце размешчана па іншым контуры, і ці атрымаюць ваду гэтыя жыхары, пытанне. Вадзім Цар на гэта адказаў, што ваду атрымаюць і яны, але, верагодна, пазней.

Забудоўшчык, безумоўна, рады навіне, але "Фестывальны" чакаў вады пяць год. І гэты час многія сем'і жылі ў сціплых кватэрах замест таго, каб пераехаць ва ўласны дом. Калі жыхары атрымаюць ваду ў новы тэрмін, ім яшчэ давядзецца чакаць пракладкі каналізацыі і дарог.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## З "Маладзечнаводаканала" спагналі 10 тысяч за парушэнні

МАЛАДЗЕЧНА

Падчас праверкі "Маладзечнаводаканала" дзяржкантроль знайшоў выпадкі неэфектыўнага выкарыстання дзяржаўнай маёмасці і сродкаў бюджэту.

Не выканалі праграму "Чыстая вада" – з 16 аб'ектаў закончаныя толькі восем. А пабудову чатырох яшчэ і не пачыналі. Не завяршылі будаўніцтва на двух аб'ектах, а па яшчэ двух выканалі толькі праектна-даследчыя работы. Гэта прывяло да неэфектыўнага выкарыстання 49,5 тысячы дэнамінаваных рублёў з абласнога бюджэту.

Дагэтуль незапатрабаваныя пяць праектаў па будаўніцтве і рэканструкцыі сетак каналізацыі і водазабеспячэння. Іх вырабілі па заказе прадпрыемства ў 2011-2015 гадах за 19,4 тысячы рублёў.

Цягам 2013–2015 гадоў прадпрыемства не ў поўным аб'ёме выконвала паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Па дадзеных прадпрыемства, летась выканалі ўсе пяць даведзеных паказчыкаў. Але праверка заўважыла завышэнні. Пасля выпраўлення высветлілася, што паказчык па энергазберажэнні фактычна не зроблены.

Пры разліку экалагічнага падатку за скід сцёкавых вод у 2013-2015 гадах арганізацыя не ўлічыла аб'ёмы вады на тэхналагічныя і гаспадарча-пітныя патрэбы па раёне. З-за гэтага яны недаплацілі ў бюджэт 22,3 тысячы рублёў экалагічнага падатку.

Знайшлі таксама парушэнні парадку вядзення бухгалтарскага ўліку. Напрыклад, занізілі прыбытак ад рэалізацыі і чысты прыбытак на 38,8 тысячы рублёў.

Па выніках праверкі прадпрыемству знізілі льготу па экалагічным падатку на 45 тысяч рублёў, далічылі ў бюджэт 38 тысяч рублёў падаткаў. Таксама далічылі работнікам даплату за працу ў шкодных умовах, утрымалі сумы залішне налічаных прэмій.

Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі 22 чалавекі, да адміністрацыйнай – пяцярых на суму 1,1 тысячу рублёў. З прадпрыемства спагналі 10,3 тысячы.

Матэрыялы праверкі перадалі праваахоўным органам для дачы прававой ацэнкі.

Паводле паведамлення
Маладзечанскага
міжраённага камітэта
дзяржкантролю.

## Памёр Анджэй Вайда



У нядзелю вечарам у Варшаве памер сусветна вядомы кінарэжысёр Анджэй Вайда. Пра гэта паведамляе "Газэта выборча".

Апошні фільм, зняты Вайдам, была стужка "Павідокі", прысвечаная мастаку Андрэю Страмінскаму, біяграфія якога цесна звязаная з Вілейкай. "Павідокі" быў вылучаны ад Польшчы на "Оскар" у намінацыі "Найлепшы неангламоўны фільм".

У мінулым нумары мы падрабязна расказвалі пра фільм, прысвечаны нашаму зямляку.

Аддзел інфармацыі.




# Маладая настаўніца з Вілейкі распавяла, як траціць грошы, атрыманыя за працу

ВІЛЕЙКА

**У 2015 годзе Алена скончыла лінгвістычны ўніверсітэт у сталіцы. Цяпер працуе настаўніцай у адной з вілейскіх школ. На што і як малады педагог траціць атрыманыя грошы? Ці хапае іх дзяўчыне?**

Алена распавяла, што прафесію абрала невыпадкова. Замежнай мовай цікавілася са школы, займалася дадаткова. Прызнаецца, што заўсёды любіла дзяцей. І прадмет падабаецца.

Для маладой настаўніцы Вілейка – родны горад. Працаваць яна прыйшла ў тую школу, дзе некалі вучылася сама. Таму з калектывам была добра знаёмая.

У школе дзяўчына вядзе ўрокі англійскай мовы. А для дзяцей, якіх асабліва цікавіць прадмет, ёсць яшчэ факультатыў.

Атрымлівае Алена – 380 рублёў "чыстымі".

Кажа, што большая частка грошай ідзе на адзенне. Менш – на ежу, касметыку. Мабільны тэлефон, які брала ў растэрміноўку, – вось яшчэ адзін "артыкул" матэрыяльных выдаткаў. Грошы былі патрэбныя і для таго, каб вывучыцца і займець правы кіроўцы.

А яшчэ маладая настаўніца заўважыла, што значная частка грошай, атрыманых на працы, ідзе... ізноў на працу.

Напрыклад, трэба ксеракапіраваць шмат матэрыялаў: нарматыўныя дакументы, раздатачны матэрыял для ўрокаў, розныя метадычныя дапаможнікі.

Вучэбныя праграмы часта мяняюцца, таму не заўсёды такімі раздрукоўкамі можна карыстацца некалькі год. Неабходныя кнігі і слоўнікі таксама каштуюць нятанна. Плюс – пісьмовыя прылады, папера.

Алена – прыгожая маладая дзяўчына. Таму не апошняе месца ў яе жыцці займаюць забавы. Часам ад вілейскіх маладых людзей чуеш, што ў горадзе няма месцаў для забаў і адпачынку з сябрамі.

Аднак Алена знаходзіць час, грошы і, самае галоўнае, месцы, дзе можна адпачыць. З сябрамі яна ходзіць у кафэ. Калі ж хочацца пагуляць у боўлінг, можна з'ездзіць у суседнюю Маладзечна. А яшчэ Алена з задавальненнем падарожнічае.

Кажа, што на ежу і забавы ідзе прыкладна аднолькавая сума грошай. Гэта тая "рэшта", якая застаецца пасля выдаткаў на адзенне, працу, касметыку.

Вельмі дапамагае тое, што дзяўчына жыве з бацькамі. Грошай, каб наняць кватэру або пакой, ужо магло б і не хапіць. І за камунальныя паслугі часцей плаціць бацькі.

Хаця адразу праца ў Вілейцы крыху засмуціла маладую настаўніцу. Пасля вучобы дзяўчына марыла застацца ў сталіцы.

Цяпер жа разумее, што Мінск толькі б дадаў матэрыяльных цяжкасцяў. Побач з бацькамі нашмат лягчэй.




Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)


| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.10 руб. | 13.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9176 | 1,9189 |
| Еўра | 2,1510 | 2,1187 |
| Злоты, 10 | 5,0036 | 4,9724 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0701 | 3,0663 |
| Грыўня, 100 | 7,4305 | 7,4004 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 12.10** | | |
| Еўра | 2.1300 /2.1550 | 2.1000/2.1270 |
| Долар ЗША | 1.9100/1.9220 | 1.9000/1.9230 |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.10 | | 12.10 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 145 300 | 14,53 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 32 400 | 3,24 | 34 000 | 3,40 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 76 000 | 7,60 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 500 | 4,15 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 125 000 | 12,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 40 000 | 4,00 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5 000 | 0,50 |
| Часнок, 1 кг | 69 500 | 6,95 | 69 500 | 6,95 |
| Капуста, 1 кг | 3 900 | 0,39 | 3800 | 0,38 |
| Морква, 1 кг | 5 400 | 0,54 | 5 000 | 0,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 16 900 | 1,69 | 13 000 | 1,30 |
| Лімоны, 1 кг | 44 500 | 4,45 | 45000 | 4,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 32 500 | 3,25 | 38 000 | 3,80 |
| Мандарыны, 1 кг | 45 000 | 4,50 | 52 000 | 5,20 |
| Гранаты, 1 кг | 44 900 | 4,49 | 40 000 | 4,00 |
| Ківі, 1 кг | 29 000 | 2,90 | 31 000 | 3,10 |
| Буракі, 1 кг | 4000 | 0,40 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 12 500 | 1,25 | 15 000 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 21 900 | 2,19 | 20 000 | 2,00 |
| Перац, 1 кг | 10 500 | 1,05 | 10 000 | 1,00 |
| Кавун, 1 кг | 4 500 | 0,45 | 3 500 | 0,35 |
| Дыня, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 10 000 | 1,00 |
| Кабачок, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 7 000 | 0,70 |
| Вінаград, 1 кг | 27 000 | 2,70 | 29 000 | 2,90 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 18 500 | 1,85 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 23 500 | 2,35 | 19 900 | 1,99 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

ЗДАРЭННІ

## Міліцыя Маладзечна шукае відавочцаў аварыі

МАЛАДЗЕЧНА

17 чэрвеня гэтага года каля 19:25 адбылася аварыя на 53 кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач.

Кіроўца аўтамабіля "Рэно-Мэган-Сцэнік" ехаў у напрамку Мінска. Паблізу вёскі Красоўшчына Маладзечанскага раёна ён сутыкнуўся з аўтамабілем "Фольксваген-Пола", які стаяў у левай паласе руху.

Пасля сутыкнення аўтамабіль "Рэно" з'ехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтапоездам ў складзе цягача "МАН" і паўпрычэпа "Вэлтан PS-2", што рухаўся насустрач.

Просьба сведак і відавочцаў здарэння звярнуцца ў ДАІ Маладзечанскага РАУС. Адрас: вул. Т.Дудко, 1-18 або па тэлефонах: (80176) 74-53-40, 74-53-43, 102.

**Паводле Маладзечанскага РАУС.**

## У Маладзечне ад уключанага начніка загарэлася коўдра

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ноччу 6 кастрычніка. Ад уключанага начніка загарэлася коўдра ў дзіцячым ложку, аднак маці патушыла агонь самастойна.

Па папярэдніх дадзеных, каля 11 ночы дзяўчынка лягла спаць і пакінула ўключаным у разетку начнік. Коўдра трапіла на лямпу напальвання, яна загарэлася. Каля гадзіны ночы 9-гадовая дзяўчынка прачнулася і разбудзіла маці, якая спала ў суседнім пакоі з братам. Жанчына хутка зрэагавала – заліла загаранне вадой з чайніка.

47-гадовая маці звярнулася ў прыёмны пакой. Пасля агляду дзяўчынкі, доктар паставіў дыягназ – "тэрмічны апёк у вобласці локцевага і левага каленнага суставаў другой ступені". Шпіталізацыя не спатрэбілася.

Пяцігадовага хлопчыка пакінулі ў бальніцы да раніцы для абследавання з падазрэннем на атручэнне прадуктамі гарэння. Стан яго здавальняючы.

Папярэдняя прычына пажару – пакінуты без нагляду начнік.

**Паводле МНС.**

## У нядзелю ў Маладзечанскім раёне ў часовай пабудове згарэў мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 9 кастрычніка ў садовым таварыстве "Ранет-1", што месціцца непадалёку ад Вязынкі.

Загінулы 59-гадовы мужчына жыў у часовай пабудове, дачны дом быў недабудаваны. Калі выратавальнікі прыехалі на месца здарэння, то убачылі, што ў часовай пабудове абрушыліся дах і сцены.

Абставіны здарэння высвятляюцца.

– Мяркуецца, што прычынай узгарання магло стаць неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Наталля ТУР.**

## У Маладзечне на вуліцы Чкалава мужчына загінуў на пажары

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося раніцай 10 кастрычніка.

Паведамленне ў службу 101 паступіла ў 5 гадзін раніцы.

Гарэў двухпавярховы дом. Выратавальнікі, якія прыбылі на месца здарэння, выявілі ў кватэры труп мужчыны, асоба якога яшчэ невядомая.

Аднак вядома, што ў кватэры быў яшчэ адзін пацярпелы, гаспадар дома. Ён звярнуўся ў "хуткую дапамогу" з апёкамі кісці 1 і 2 ступеняў.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

– Аднак найбольш верагодныя разглядаюцца дзве версіі: неасцярожнасць пры курэнні і неасцярожнасць пры эксплуатацыі электранагравальніка, – расказала "Рэгіянальнай газеце" старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Марына Ганчарова.**

**Наталля ТУР.**



# Жудасныя здымкі абляцелі інтэрнэт

**Паліцыя са штата Агаё, ЗША, змясціла жахлівыя здымкі з двума нерухомымі целамі мужчыны і жанчыны ў аўтамабілі і 4-гадовага хлопчыка, вочы якога былі поўнымі страху. Што здарылася?**


Фота з Facebook.

Жудасныя здымкі, на якіх мужчына і жанчына сфатаграфаваныя ў ненатуральных позах, абляцелі ўвесь інтэрнэт.

Паліцыя хацела паказаць, да чаго можа прывесці ўжыванне гераіну, калі ты гадуеш дзіця.

**Паліцыя з горада Іст-Ліверпуль, штат Агаё, размясціла ў сваім профілі ў Фэйсбуку жахлівыя фота пары нерухомых мужчыны і жанчыны на пярэдніх сядзеннях аўто, у той час калі ззаду сядзеў перапалоханы 4-гадовы хлопчык.**

Як аказалася, некаторы час таму паліцыя затрымала аўтамабіль, які дзіўна рухаўся і раптам спыніўся. У кабіне сядзеў чалавек, галава якога ківалася спераду назад, а гаворка была ледзь зразумелай. Паліцэйскія здолелі зразумець, што мужчына хацеў завезці непрытомную жанчыну ў бальніцу.

### "Мы лічым, што павінны быць голасам дзяцей"

Перад тым як кіроўца спрабаваў ад'ехаць, паліцэйскі выключыў рухавік аўтамабіля і выцягнуў ключы. Пасля ён убачыў хлопчыка на заднім сядзенні. У той самы момант вадзіцель таксама страціў прытомнасць. Аказалася, абодва дарослыя не разлічылі дозу гераіну.

Паліцыя апублікавала фатаграфіі з каментарыем: "...Мы лічым, што неабходна паказаць адваротны бок гэтага страшнага наркотыку. Адчуваем, што мы павінны быць голасам дзяцей, якія трапляюць у вялікую бяду. Гэта дзіця не можа адказваць за сябе. Спадзяёмся, што яго гісторыя можа пераканаць іншых наркаманаў, каб сем разоў падумалі перад тым, як укалоцца гэтай атрутай, калі яны апякуюцца дзецьмі".

Паліцэйскія, па іх сцвярджэнні, выдатна разумелі, што некаторых людзей гэтыя здымкі могуць шакаваць. Яны папрасілі прабачэння і дадалі: "Але настаў час, каб людзі, якія не ўжываюць наркотыкі, убачылі, з чым мы маем справу штодня. Гераін трымае ў моцных абдымках вялікую частку грамадства. Мы гатовыя да барацьбы з гэтай праблемай, аж пакуль не пазбавімся яе. Нават калі гэта прывядзе да таго, што абразім гэтымі здымкамі некалькі чалавек".

### Што было далей

Пары наркаманаў былі ўведзеныя супрацьнаркатычныя сродкі. Мужчына патрапіў на 180 дзён у турму за кіраванне аўтамабілем пад уплывам наркотыкаў і за тое, што паставіў дзіця ў небяспеку. У пятніцу паліцыя праінфармавала, што апеку над 4-гадовым сынам мужчыны суд дазволіў яго сястры і швагру.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вандалы знішчылі 37 помнікаў на могілках у Лебедзеве

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 7 кастрычніка. Разгром помнікаў учынілі зламыснікі ў вёсцы Лебедзева. Тут у чацвер яны разбілі, павалілі, разбурылі 37 помнікаў. Заявы ад пацярпелых працягваюць паступаць у РАУС, расказаў намеснік начальніка па ідэалагічнай і кадравай рабоце Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Васількоў**.

Асобы тых, хто здзейсніў злачынства, пакуль невядомыя. Праводзіцца праверка.

**Наталля ТУР.**

## Інспекцыя ветэрынарнага нагляду выявіла парушэнні

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 1 ліпеня да 30 верасня супрацоўнікі Маладзечанскай рэгіянальнай інспекцыі ветэрынарнага нагляду правялі 128 маніторынгаў прадпрыемстваў у Маладзечанскім, Мядзельскім, Вілейскім, Валожынскім і Стаўбцоўскім раёнах.

Падчас праверкі інспекцыя выявіла парушэнні ветэрынарнага заканадаўства. Прадпрыемствам выдалі рэкамендацыі па ліквідацыі тых, якія звязаныя з парушэннем патрабаванняў па нарыхтоўцы, перапрацоўцы, захоўванні і рэалізацыі прадукцыі жывёльнага паходжання. За парушэнні патрабаванняў ветэрынарна-санітарных правілаў да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя 16 чалавек.

**Маладзечанская рэгіянальная інспекцыя ветэрынарнага нагляду.**

## У Маладзечне затрымалі хлопцаў, якія незаконна зарабілі 20 тысяч долараў на званках з-за мяжы

МАЛАДЗЕЧНА

Такую суму яны атрымалі ўсяго за месяц падпольнай дзейнасці.

Маладыя людзі, 1995 года нараджэння, з дапамогай камп'ютара, сім-карт, спецыяльных праграм і тэхнічных сродкаў перанакіроўвалі міжнародны тэлефонны сігнал, які паступаў у Беларусь, у абыход нацыянальных апаратараў сувязі. Усё гэта яны рабілі на наймальных кватэрах.

У ходзе расследавання праводзіцца допыты сведак, вывучаецца дакументацыя, даследуецца змесціва спецыяльнага абсталявання і іншых радыёэлектронных прылад, якія выкарыстоўваліся ў злачынных мэтах, усталёўваецца прычыненая шкода.

Для аказання прававой дапамогі накіраваныя даручэнні ў краіны СНД, Літву.

Дзеянні падазраваных кваліфікаваныя следствам па ч. 2 арт. 216 (прычыненне шкоды пры адсутнасці прыкмет крадзяжу, здзейсненае групай асоб) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

У падазраваных ўзята абавязацельства аб яўцы, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Доктар-імунолаг адказвае на пытанні пра прышчэпкі

**Для нашых дактароў восень – самы гарачы час. І не таму, што надыходзіць час прастуды, а таму, што восенню пачынаецца сезон вакцынацыі.**


Фота з сайта woman.ru

Прышчэпкі робяцца дзецям з шасцімесячнага ўзросту.

У кабінеце доктара-імунолага дзіцячай паліклінікі ў Маладзечне **Марыі Байковай** з раніцы не змаўкае тэлефон – маладзечанцы тэлефануюць, каб запісаць сваіх дзетак на платную прышчэпку з Галандыі.

Сёння ў паліклініку прывезлі 50 ампул замежнай вакцыны, на чарзе ж на яе стаяць 75 чалавек.

**Каштуе адна галандская вакцына 15 рублёў 27 капеек.**

– Беларускай жа вакцынай мы прышчэпліваем бясплатна, – тлумачыць доктар.

Беларуская вакцына называецца грыпол плюс-белмед. Галандская – інфлювак.

– У галандскай вакцыне распісаныя ўсе штамы. Уваходзіць нават штам ганконгскага грыпу, успышку якога і абяцаюць гэтай зімой. Затое ў беларускую вакцыну ўваходзіць поліаксідоній. Ён выпрацоўвае імунітэт і ад рэспіраторных інфекцый.

**– Каму неабходна рабіць прышчэпкі?**

– Абавязкова дзткам ад шасці месяцаў да трох гадоў. І так званым “групам рызыкі”. Гэта людзі, якім больш за 60 гадоў, незалежна ад стану іх здароўя, дзеці дашкольнага ўзросту і школьнікі. Ну, і дарослым, якія часта хварэюць на прастуду, якія пакутуюць на хранічныя захворванні, на захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, нервовай, эндакрыннай сістэмы, у тым ліку хворым на цукровы дыябет.

Людзям, якія па сваёй прафесіі маюць высокую рызыку захварэць на грып: дактары, настаўнікі, выхавацелі, прадаўцы, кандуктары, цырульнікі. І, адпаведна, рабіць прышчэпкі нельга тым, у каго алергія, у час абвастрэння хранічных захворванняў, калі вы ўжо хварэеце на прастуду, а таксама дзеткам да 6 месяцаў.

Вакцынацыя ў Маладзечне праходзіць ад сярэдзіны верасня і да 1 снежня штогод.

**На сённяшні дзень прышчэплены 421 дзіцёнак ва ўзросце да трох гадоў. Міністэрства ж аховы здароўя даводзіць лічбу – 75% дзяцей да трохгадовага ўзросту павінны быць прышчэплены.**

У мінулым годзе ні аднаго выпадку захворвання на грып у Маладзечанскім раёне не было зафіксавана.

– Але гэта зусім не нагода радавацца. Успышкі эпідэміі грыпу праходзяць хвалямі. Апошняя моцная ўспышка была ў 2009 годзе. Памятаеце? Таму, чым больш часу эпідэмія ідзе на спад, тым большая верагоднасць таго, што хутка яна выбухне.

Калі Марыя Байкова ўспамінае 2009 год, прыгадвае, што тады эпідэмія была вельмі моцнай. Асабліва цяжка пераносілі грып цяжарныя жанчыны, людзі з хранічнымі захворваннямі.

– Былі і смяротныя выпадкі. А што ж вы хочаце, грып – небяспечны яшчэ і тым, што дае вельмі моцныя ўскладненні.

**Грып 2009 даваў ускладненні на лёгкія – пнеўманія была такой цяжкай, што пераўтварала лёгкія ў кашу. Вядомыя выпадкі, калі праз ускладненні на грып чалавек хварэў на энцэфаліт.**

Ад 2009 года прышчэпка на грып як абавязковая ўваходзіць у нацыянальны каляндар прафілактычных прышчэпак разам з прышчэпкамі ад туберкулёзу, краснухі, слупняку, гепатыту Б, коклюшу, дыфтэрыі, палеамеліту.

**– Ці праўда, што чалавек, якому зрабілі прышчэпку, абавязкова захварэе?**

– Калі ваш арганізм рэагуе на прышчэпку тэмпературай 37.5 – гэта нармальна. Так і павінна быць. Затое падчас эпідэміі грып пераносіцца значна лягчэй. А тое, што нас, дактароў, некаторыя бацькі абвінавачваюць у тым, што, маўляў, з-за вашай прышчэпкі захварэла дзіця, то гэта спрэчнае пытанне. Таму што прышчэпкі робяцца ў той час, калі ў дамах няма ацяплення, калі дзеці цесна кантактуюць у групах ці класах адзін з адным. Таму сцвярджаць, што дзіця захварэла з-за прышчэпкі, няправільна.

Марыя Байкова кажа, што медыцына робіць усе крокі да таго, каб вакцынацыя прайшла хутка і эфектыўна. Прышчэпку можна зрабіць і ў садку, і ў школе, і ў паліклініцы. Таксама ў паліклініцы маюцца выязныя брыгады для большай даступнасці сельскаму насельніцтву.

– На гэтым тыдні мы выязджалі на ФАП у Выверы, прышчапілі 65 чалавек, на наступным тыдні плануем выехаць у Хажова. Вы толькі не хварэйце. Уявіце, як цяжка дактарам лячыць ад грыпу, калі падчас успышкі аднначасова могуць хварэць тысячы чалавек. Таму, канешне, прасцей хваробу папярэдзіць.

**Наталля ТУР.**

Калі ў вас ёсць пытанні, ці рабіць прышчэпку дзіцяці, Марыя Байкова адкажа на іх.

**Тэлефанаваць доктару-імуналагу можна па нумары 8-176-77-06-22.**

ЗДАРЭННІ

## Маладзечанка стала прычынай ДТЗ, у якіх ДАІ разбіралася два дні

МАЛАДЗЕЧНА

Гісторыя, якую распавёў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**, працягвалася два дні.

У ёй шмат дзеючых асоб і машын, любоўная драма, пратакол за тое, што было пакінутае месца ДТЗ і за парушэнне правілаў руху заднім ходам. І, вядома, ва ўсіх справах “шэршэ ля фам” – шукайце жанчыну.

Але пра ўсё па парадку.

Раніцай у нядзелю ў службу 102 паступіў званок ад 33-гадовага мужчыны, гаспадара машыны “Аўдзі”. Ён паведаміў, што на яго машыне бачныя сляды пашкоджання.

Пасля таго, як ён выклікаў міліцыю, мужчына выйшаў у двор і заўважыў на шкле машыны пад дворнікам запіску.

Яе пакінуў сусед, кіроўца аўтамабіля “Рэно”. Ён тлумачыў, што яго машына ўрэзалася ў “Аўдзі” з-за таго, што нехта яе ўдарыў спераду. Машына адкацілася і пакінула пашкоджанні.

Аказалася, што ў суботу вечарам, 8 кастрычніка, на гэтае ДТЗ ужо выязджалі супрацоўнікі ДАІ.

А вечар, як гаворыцца, не абяцаў бяды. 29-гадовы кіроўца “Рэно” чакаў у госці знаёмую. Дзяўчына з’явілася на парозе з паведамленнем пра тое, што “толькі што ў двары ў тваю машыну ўрэзаўся “Мэрсэдэс” і з месца здарэння з’ехаў”.

А супрацоўнікі ДАІ, што працавалі на гэтым здарэнні ў суботу, выявілі, што акрамя “Рэно” і “Аўдзі” яшчэ пашкоджаныя дзве машыны – “Субару” і “Мазда”.

І характар гэтых пашкоджанняў указваў на тое, што ў гэтыя машыны ўразалася адна і тая ж машына.

Але знайсці вінаватую ДАІ здолела толькі назаўтра.

А познім вечарам у суботу, каля 23:20, у двары на Дудко разгаралася сапраўдная драма. 27-гадовая маладзечанка пасля сваркі з мужам схапіла ключы ад яго машыны “Мерсэдэс” і вырашыла з’ехаць з дому.

У такім узбуджаным стане яна села за руль аўтамабіля, але заўважыла ў святле фар, што да машыны бяжыць яе муж, відаць, не хацеў адпускаць жонку. Яна ж у сваю чаргу не вельмі хацела з ім размаўляць і як мага хутчэй спяшалася з’ехаць з двара. Тым самым зачапіла і пашкодзіла чатыры машыны.

Назаўтра жанчыну дадому прывезла сяброўка, у якой тая начавала.

А ў двары працавалі супрацоўнікі ДАІ, якіх выклікаў кіроўца “Аўдзі”. Сяброўка сцяміла, што хавацца ад міліцыі няма сэнсу, сама звярнулася да даішнікаў і патлумачыла ўсю сітуацыю. І чаму жанчына пашкодзіла машыны, і чаму з’ехала з месца ДТЗ, і што яна шкадуе, што так атрымалася.

На жанчыну склалі адміністрацыйныя пратаколы. Яна заплаціць штраф. Акрамя таго, будзе выплачваць шкоду гаспадарам пашкоджаных машын. Ну, і жыць побач з суседзямі таксама давядзецца.

**Наталля ТУР.**

## Міліцыянер мусіў двойчы страляць у паветра, праследуючы п’янага кіроўцу з Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

Вечар нядзелі, 9 кастрычніка, для супрацоўнікаў Маладзечанскай ДАІ сумным не назавеш.

– Каля 23 гадзін экіпаж ДАІ заўважыў “Фольксваген-Гольф”, які няўпэўнена рухаўся па вуліцы Чарняхоўскага, – расказаў “Рэгіянальнай газеце” намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Васількоў**. – Трэба было спыніць машыну і пераканацца ў стане здароўя яго кіроўцы. Аднак кіроўца, як потым высветлілася, 28-гадовы жыхар Маладзечна, падпарадкоўвацца не спяшаўся.

Ён працягваў рух. І спыніўся толькі непадалёк ад пасёлка Сасновы Бор. – Мужчына спачатку заблакаваў сябе ў машыне і, калі супрацоўнікі ДАІ падышлі да яго, рэзка крануўся з месца. Парушальнік наехаў на супрацоўніка ДАІ, нанёс яму цялесныя пашкоджанні. Аднак гэта не перашкодзіла траўмаванаму міліцыянеру працягнуць праследаванне. Каб нарэшце спыніць кіроўцу, супрацоўнік ДАІ двойчы мусіў выстраліць у паветра.

Пасля аказалася, што ў мужчыны ў крыві было 3,5 праміле алкаголю, што адпавядае выпітым амаль дзвюм бутэлькам гарэлкі.

**Юры Багушэвіч**, старшы следчы Маладзечанскага РАСК, расказаў, што па гэтым факце ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле “супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў, які сцярог грамадскі парадак”.

Па гэтым артыкуле прадугледжанае пакаранне да пяці гадоў абмежавання ці пазбаўлення волі.

**Наталля ТУР.**

## На раскопках у Кастыках знайшлі старажытнае паселішча

### Упершыню курган тут раскапаў яшчэ Канстанцін Тышкевіч

ВІЛЕЙКА

**Сёлета ў вёсцы Кастыкі Людвіноўскага сельсавета пад кіраўніцтвам аўтара гэтай публікацыі правялі археалагічныя раскопкі курганнага могільніка 11-12 стагоддзяў.**

Курганны могільнік Кастыкі адносна невялікі, сёння ў ім налічваецца меней за два дзясяткі насыпаў. Але ён вельмі важны помнік для беларускай археалогіі. Можна сказаць, што фактычна з Кастыкаў пачыналася вывучэнне старажытнасцяў Вілейшчыны ў сярэдзіне 19 стагоддзя. І гэта зусім не перабольшванне, бо ўпершыню адзін курган у Кастыках раскапаў яшчэ **Канстанцін Тышкевіч** у 1856 годзе падчас сваёй знакамітай экспедыцыі па рацэ Віліі.

У 1973 годзе раскопкі курганоў у Кастыках праводзіў вядомы беларускі археолаг **Яраслаў Зверуга**, які даследаваў сем пахавальных насыпаў. Падчас раскопак 1973 года знайшлі, што пахаванні ў курганах здзяйснялі па абрадзе трупапакладання галовамі на захад і суправаджалі кругавымі гаршкамі і нешматлікімі ўпрыгажэннямі. У адным з курганоў знайшлі жалезную сякеру.

### Што знайшлі ў Кастыках

Сёлета даследаванні курганоў у Кастыках аднавілі ў межах вывучэння пахавальнага абраду жыхароў заходняга памежжа Полацкага княства. Падчас раскопак даследавалі адзін курган, у якім змяшчалася пашкоджанае жаночае пахаванне па абрадзе трупапакладання. Ад пахавання застаўся толькі чэрап, побач з якім жаночае бранзалетападобнае скроневае кольца. Таксама знайшлі амаль цэлы кругавы гаршчок.

Але акрамя прадказальнага пахавання, даследаванні 2016 года прынеслі і нечаканыя вынікі. Аказалася, што курганы ў Кастыках былі насыпаныя з культурнага слоя старажытнага паселішча. Культурны слой гэтага паселішча быў выяўлены і пад курганамі, і ў міжкурганнай прасторы на плошчы ў 166 квадратных метраў. Стала зразумела, што яшчэ ў каменным, бронзавым і жалезным вяках, а таксама ў раннім Сярэднявеччы на беразе Віліі, дзе ў далейшым у 11–12 стагоддзях былі насыпаныя курганы, на працягу доўгага часу існавала старажытнае паселішча.

Археалагічныя раскопкі – гэта заўжды працаёмкая па часе і дастаткова цяжкая праца, якая вымагае высілкаў вялікай колькасці людзей. У раскопках сёлета прымалі ўдзел валанцёры з Мінска, Гродна, Магілёва, Бабруйска, а таксама школьнікі з Гатаўскай сярэдняй школы Мінскага раёна і краязнаўцы з Вілейкі.

### Мясцовыя жыхары шчыра дбаюць аб захаванні курганоў

Захаванне археалагічных помнікаў у нашай краіне на сёння – адна з найскладанейшых праблем, належныя шляхі вырашэння якой пакуль яшчэ не знойдзеныя. Але сказанае зусім не датычыцца Кастыкаў, бо ўсе мясцовыя жыхары добра ведаюць, што такое курганы і шчыра дбаюць аб іх захаванні, а таксама з глыбокай павагай стаўяцца да працы археолагаў. Натуральна, праводзіць раскопкі ва ўмовах, калі мясцовыя жыхары цікавяцца тваёй працай і імкнуцца ўсяляк дапамагчы ў ёй, не толькі цікава, але і проста прыемна.

Правядзенне археалагічных раскопак было б немагчымым без арганізацыйнай падтрымкі з боку намесніка старшыні Вілейскага райвыканкама **Святланы Дзяругі**, начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі выканкама **Сяргея Паўлоўскага** і на той час дырэктара Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея **Сяргея Ганчара**.

Вялікую дапамогу ў раскопках таксама аказалі сябры вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў і, у прыватнасці, кіраўнік суполкі **Дзяніс Канецкі**. Такое стаўленне да захавання і вывучэння археалагічнай спадчыны як з боку мясцовага насельніцтва, так і з боку кіраўніцтва раёна можна лічыць узорным і быць прыкладам для іншых рэгіёнаў нашай Радзімы.

Пасля навуковай апрацоўкі матэрыялы раскопак у Кастыках перададуць у Вілейскі гісторыка-краязнаўчы музей, дзе яны з цягам часу зоймуць належнае месца ў яго новай экспазіцыі.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага інстытута імя Сахарава Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

# “Музыка пад Брайлем”:

## у Маладзечне прэзентуюць фільм пра таленавітага невідушчага хлопчыка

МАЛАДЗЕЧНА

**24 кастрычніка, у панядзелак, а шостай гадзіне вечара ў малой зале Палаца культуры адбудзецца прэзентацыя дакументальнага фільма Вольгі Пятровай “Музыка пад Брайлем”.**



Фота Юліі ШАБЛОЎСКАЙ

Упершыню вакальны талент Даніка заўважыла яго бабуля. Ужо ў два гады хлопчык любіў паўтараць песні, якія чуў па тэлевізары.

Фільм расказвае пра жыццё таленавітага хлопчыка **Данілы Савені**, якога многія ведаюць як выканаўцу гімна на міжнародных хакейных турнірах у Беларусі. Аднак нямногія ведаюць, што хлопчык жыве і вучыцца ў Маладзечне ў школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі зроку.

На мерапрыемстве будзе працаваць фотаэкспазіцыя “Асяроддзе пражывання: у цемры” **Юліі Шаблоўскай**.

### “Мы не бачым іх, яны не бачаць нас”

Фатограф расказала, колькі працавала над фотапраектам, чаму вырашыла ўзяцца менавіта за яго:

– Праект пачынаўся як вучэбны з фотагісторыі пра невідушчага мужчыну **Аляксандра Жыдовіча**. Аднак пасля месяца амаль штодзённых сустрэч вучоба перарасла ў сяброўства, сяброўства стала жыццём. Так з’явіўся яшчэ адзін герой, яшчэ адзін сябар, яшчэ адно асяроддзе пражывання.

Маладзечна – своеасаблівае месца “Х” для невідушчых людзей. Бо ў горадзе ёсць прадпрыемства, дзе працуюць інваліды па зроку, школа-інтэрнат, дзе вучацца невідушчыя і дзеці са слабым зрокам.

Кожны герой з майго праекта – чалавек-унікум, чалавек-знаходка, чалавек з незвычайнай яркай пазіцыяй. **Саша Жыдовіч** праз інваліднасць асуджаны на адзіноту ў сценах сваёй аднапакаёвай кватэры, але кожны вечар ўключае ў пакоі святло. “Тут жыве чалавек!” – ганарліва тлумачыць ён сваё дзеянне.

**Саша Еўдакімаў** – малады выкладчык музычнага каледжа таксама не лічыць інваліднасць падставай апусціць рукі. Ён – той самы прыклад нязломнай стойкасці духу і чалавечай упартасці.

**Данік Савеня – брыльянт майго фотапраекта**

Хлопчык мог памерці, не дажыўшы да свайго першага дня нараджэння. Ён не толькі выжыў, але і праславіўся сваім голасам і выдатным розумам.

У Беларусі інваліды па зроку і цяпер застаюцца адной з самых неабароненых груп насельніцтва. Ім цяжэй знайсці працу па-за сістэмнымі прадпрыемствамі, практычна немагчыма выйсці за рамкі прымальных прафесій для гэтай катэгорыі інвалідаў, нямногім удаецца знайсці не толькі фінансава годную работу, але і займацца пры гэтым любімай справай.



Фота Юліі ШАБЛОЎСКАЙ

З-за падлеткавай мутацыі голасу Даніку было цяжка браць верхнія ноты, аднак яго доктар-фаніятр сцвярджае, што мутацыя прайшла паспяхова. Цяпер Данік вучыцца працаваць са сваім новым голасам.

**Мы не бачым іх. Яны не бачаць нас. Сваім фотапраектам я вырашыла дапамагчы гэтым людзям выйсці на святло”.**

У ліку спецыяльных гасцей: кінарэжысёр **Максім Швед**, акцёр і рэжысёр **Андрыян Бартчкевіч**, кампазітар **Кацярына Сянкевіч**, **Данііл Савеня**, яго настаўніца **Таццяна Стукалава**, **дуэт “Апрыёры”** і іншыя.

Уваход свабодны.

**Паводле клуба эфектыўных кантактаў “Дыялог+”.**



Фота Юліі ШАБЛОЎСКАЙ

Данік вельмі любіць сваю малодшую сястру Сашу, пагэтаму часта абдымае і “ціскае” яе.

## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**ЛЯЎКО**
**Валянціне Аляксееўне**
**з Забароддзя**
**Вілейскага раёна**



Няхай слёзы будуць на тваіх вачах толькі ад шчасця. Сэрца выскоквае ад радасці, а не ад турбот. Няхай, нават у холад, саграюць словы блізкіх і родных.

*Нахай не толькі ў гэта свята*
*Усмешка на вуснах гарыць,*
*У жыцці будзе грошай*
*багата,*
*А кожны дзень шчасцем*
*звініць!*
*Мы ў дзень нараджэння*
*жадаем*
*Кахання, жаночых прыгод,*
*І сэрца хай песні спявае*
*Яшчэ для цябе цэлы год!*

**Сын Кірыл, нявестка.**

**З 55-ГОДДЗЕМ**
**СУХОМУ Аляксандру**
**з к.п. Нарач**
**Дарагі брат!**
**З 55-годдзем!**

*Жадаем сямейнага дабрабыту, любові, удачы ва ўсім.*

*В день чудесный юбилея*
*Желаем мы от всей души,*
*Чтоб наступающие годы*
*Были светлы и хороши.*

*Пусть радость в жизни*
*согревает,*
*Здоровье пусть не покидает,*
*Пусть в доме будут мир и лад,*
*А это – самый лучший клад.*

**З павагай, сёстры Тамара, Святлана і іх сем'і.**



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-2107, 1992 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 2639924.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Івеко-Турба-Дэйлі 49-10, 1994 г.в, 2,5ТД, добры стан, 10000 руб., торг. Т. Вэлком (8-029) 3156897.
- Міцубісі-Кольт, 1999 г.в, 4300 руб, ідэальны стан. Т. МТС (8-029) 5063847 Аляксандр.
- Нісан-Прымера, 1995 г.в, у добрыя рукі, 3700 руб, ідэальны стан. Т. МТС (8-029) 5063847 Аляксандр.
- Опель-Агіла, 8200 руб, ідэальны стан. Т. МТС (8-029) 5063847 Аляксандр.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-405, 1996 г.в, белы, 1490 руб. Т. (8-029) 9227164 Дзіма.
- Рэно-19, 1990 г.в, 1,7 бензін, добры стан, 1900 руб.
- Сітраэн-Эвазіён, мінівэн, 1999 г.в, 1,8 бензін, 7400 руб., торг. Т. (8-029) 5577421, (8-029) 9414735.
- Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в, на хаду, 2,1 дызель, магчымы абмен на ВАЗ-2121 Ніва. Падрабязнасці па тэл. (8-029) 6051086.
- Таёта-Карола, 1999 г.в, 2,0Д, 4 л на 100 км, 3999 руб. Т. (8-029) 6575486, (8-029) 8417340.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра па вул. Чыгуначнай у Маладзечне. Т. (8-029) 5721463.
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 2488029.
- 2-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі ў а.г. Людвінова Вілейскага р-на, агул. плошчай 46,8 кв.м. Т. (8-029) 3345498.*
- 2-пакаёвая кватэра ў в. Любань Вілейскага раёна, санвузел сумесны, цэнтральнае ацяпленне, 16000 бел. рублёў. Т. МТС (8-029) 2702418.
- 2-пакаёвую кватэру, 5/5. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 21514, 28073, (8-033) 6041497.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 6; цагляны, 4/9, 67,7-38,7-8,2. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2879947.
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-01592) 41967, (8-029) 3073122.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- 4-пакаёвая кватэра, 76 кв.м, у Маладзечне па вул. Крынічнай. Т. (8-029) 3840109.*
- Гараж у ГК №14 г. Маладзечна, вул. Новы Свет. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.
- Гараж на Лясных у Маладзечне, 6000 руб. Т. (8-029) 2488029.
- Гараж у Маладзечне ў ГК №32 "Фестывальны". Вароты 2,7х2,7 м. Гараж 6х5,2 м. Магчымы абмен на аўтамабіль. Т. (8-029) 6374541.*
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дачны ўчастак 18 сотак з домам, калодзежам. Побач лес, рэчка. в. Любоўшы Вілейскага раёна (побач Талуць). Т. (8-029) 5721463.
- Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*
- Дом жылы драўляны ў добрым стане, 30 сотак, ёсць склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, 8 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 3641985 Вэлком, (8-017) 3931132 (хатні).*
- Дом новы ў в.Снежкава. Т. МТС (8-029) 2516187.*
- Дом у в. Кардон Вілейскага р-на. Ёсць лазня, калодзеж, участак, лес, рэчка побач. Т. (8-029) 2928728.
- Дом у в. Цынцавічы. Т. (8-033) 6056455.
- Дом у Вілейцы па вул. Камсамольскай. Т. (8-029) 7005039.*
- Дом у Вілейцы па вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Катэдж у цэнтры пасёлка Чысць, два паверхі, усе камунікацыі, цёплыя падлогі, убудаваная кухня, лазня, два гаражы, ландшафтны дызайн. Магчымы абмен ці арэнда. Т. (8-029) 7051915, 8-0176 706220.*
- Пакой у 2-пакаёвай кватэры. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*

### ЗДАМ

- 1-пакаёвая кватэра з мэбляй у Маладзечне, танна. Т. (8-029) 2488029.
- У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з сан. вузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі.
- Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з сан. вузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/вытворчасць/склад. Знаходзяцца каля ГЦ «Спадарожнік» у Маладзечне. ІП Судніковіч В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).
- Пакой для дзяўчыны ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 2521348.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

### НАЙМУ

- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. (8-029) 2717133

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Жыццё за панскім часам

## Успаміны Івана Ілліча Варановіча, былога сябра Таварыства беларускай школы ў вёсцы Касічы

**Мне не забыцца, як некалі я з сястрой Соняй у дзяцінстве вакол царквы ў Рацавічах на каленях паўзлі.**



Фота забяспечанае Вольгай КОЛАСАВАЙ.

**13 мая 1928 года. Вілейка. Дэлегаты павятовага з'езда Таварыства беларускай мовы ля будынка пажарнай аховы, у якім сёння месціцца Вілейскі краязнаўчы музей. У першым радзе ў цэнтры старшыня павятовай арганізацыі ТБШ пісьменнік і журналіст Аляксандр Уласаў, каля яго справа – дэпутат сейма Флягонт Валынец, стваральнік у будучым Дзяржаўнай харавой капэлы Рыгор Шырма. Верагодней за ўсё, тут знаходзіцца і Іван Варановіч з Касічоў.**

Неяк мой бацька быў у пана за пастуха. Там быў племянны бык, які прызнаваў толькі свайго асноўнага пастуха, якога баяўся і не чапаў. А тут мой бацька надумаўся падражніць яго, дык ён паваліў яго і лбом сінякоў наставіў. Пастух быка адагнаў, а Ілюку давялося адлежвацца.

Мая маці Пелагея Кірмель, родам з Камарышак, рана памерла. У мяне была мачаха Настуля. Як прыйшла замуж, дык прынесла з Каралеўцаў збожжа і змалола ў жорнах. Я прыходжу з работы, а мачаха скардзіцца: "Іван хлеб з'еў". Я пытаюся: "Хто сказаў? – "Маня". – "Стукну па зубах, калі скажаш яшчэ". – "А паспрабуй". Я й стукнуў яе, а мой бацька – мне качаргой па спіне. Тады я кажу: "Працаваць няма каму, а як біць, дык ёсць каму". Тады я будаваў гаспадарчыя будынкі.

Мой бацька Ілюк ў дзяцінстве катаўся на качалках па лаўцы і вывіхнуў левую руку. Яго бацька Тамаш не павёз у бальніцу, каб паправіць вывіх. Так і не дзейнічала рука, сохла. Брат майго бацькі Самось паехаў у Амерыку і застаўся там. Пазней Ілюк нагу зламаў, як перад вяселлем старэйшай дачкі (маёй сястры) Соні хацеў прывезці пяску, каб засыпаць лужыну на падворку.

Да Першай сусветнай вайны мой бацька жыў някепска. Хата стаяла на сонечным баку вуліцы. Але, уцякаючы ад немцаў, паехаў у Сібір. Пасля вайны мой дзядзька Самось (бацька Фені) паставіў сваю хату на нашым месцы. Прыехаўшы з Сібіры пасля Рыжскай мірнай дамовы, бацька добрую хату ўжо паставіў не на сонечным баку, а на краі вёскі, ля балота Калюгі. Я ўжо сам будаваў хлеў і гумно.

У маёнтку ў Струменні я шукаў сабе работу падзёншчыка. Мне спадабалася Юля (яна цяпер замужам за Віктарам Сайковым Варановічам), і я прапанаваў ёй выйсці замуж за мяне. "Табе бацька дасць крыху зямлі і ў мяне траціна. Сам Бог нам сказаў разам жыць". Але яна адмовіла: "Яшчэ пагуляць хачу".

Я быў сябрам ТБШ і Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Іх кіраўніцтва было ў Вільні. Там выходзілі і беларускія газеты. Я надрукаваў там дзве нататкі ў газеце "Наша справа". У першай пісаў, як п'яны поп у царкве замест малітваў лаяў бальшавікоў, якія кажуць, што беларусы заходнія хочуць далучыцца да ўсходніх. У другой нататцы "Што заваяваў расійскі салдат?" пісаў аб тым, што пан Бахчанскі замест таго, каб паправіць і абгарадзіць магілы тых салдат, што загінулі ў час бамбёжкі ў 1915 годзе, заараў іх.

У Вілейцы была павятовая ўправа ТБШ. У вёсках ствараліся гурткі гэтай арганізацыі. Паводле Статута ТБШ, у гуртку павінна было быць 11 сяброў. Столькі ў Касічох не знайшлося: баяліся. Тут толькі сталі сябрамі я, Паўлюк Юркавіч Дзямідовіч ды Іван Пракопавіч Салавей.

Цэнтрам нашага гуртка была вёска Мішуты. Узносы браліся так, хто колькі зможа даць. З Вільні нам паступала газета "Наша справа", Праграма Беларускай работніцка-сялянскай грамады і інструкцыі. У Вілейцы быў Валынец, які быў паслом (дэлегатам) у Сейме Польшчы. Я быў прапагандыстам гуртка і атрымліваў газеты, інструкцыі, праграму і літаратуру ў Вілейцы і распаўсюджваў бясплатна ў Бараўцах, Баранцах і іншых вёсках.

Інструкцыі даваліся мне бясплатна. Тэклінопальскі пан Казімір Мыслінскі, які быў паручнікам кавалерыі ў Вілейцы, ведаў, што я іх атрымліваю і чытаю. Ён гаварыў мне пра нейкую партыю Вызвалення, прапаноўваў, каб я ажаніўся з яго служанкай Зосяй.

Той паручнік са сваёй жонкай ездзілі на конях па лесе і правяралі лес, каб не пакралі. Яны лавілі зладзеяў. Калі зловіць мужыка з дрывамі, то паб'е яго бізуном, а пасля скажа цану за дровы, і за гэта трэба таму адрабіць у маёнтку. Пан паручнік Мыслінскі вельмі любіў паляванне. У панскім маёнтку было шмат сабак і катоў. У Шылавічах тады было 8 коней і 40 кароў.

За месяц работы ў Шылавічах я зарабіў аж пяць пудоў жыта, але атрымаў толькі чатыры. Тады пуд жыта каштаваў два злотыя. Там мяне і кармілі. Калі наймалі на работу, дык дамаўляліся і пагаджаліся з абодвух бакоў. Мяне і кармілі тры разы на дзень. Але кармілі кепска. Часта варылі зацірку, а хлеба нават у волю не было. Для работніка галоўнае, каб хлеба хапала. Што паны самі елі, мы ня ведалі. Твой бацька са Змітрам два дні парабілі і ноччу, не ўзяўшы разліку, уцяклі дамоў. А я адбыў болей месяца.

**Парабкі і нанятыя на падзёншчыну сяляне працавалі ад цямна да цямна. Старая пані Тэкля ўставала рана, як толькі віднела, глядзела праз акно, ці выйшла прыслуга на работу, і паказвала праз акно пальцам, калі нехта заспаў лішняе.**

Са свайго пакоя пані выходзіць рана, калі толькі бралася на досвітак, баялася. Можа, баялася, каб яе не забілі, бо часта сварылася на людзей, што яны лянівы раніцай устаюць, на рабоце не стараюцца і дрэнна робяць. Мяне тады пані аштрафавала на пуд жыта за тое, што я аднойчы ноччу, калі кахаўся са служанкай Зосяй (з Баранцаў), якая рабіла тут кухаркай, парушыў яе сон.

Было ў Шылавічах у мяне яшчэ адно здарэнне, калі ў маю бойку з капралам умяшаліся пан Мыслінскі і сама пані Тэкля. У пана быў прыслугач капрал Антоні. Яго прозвішча я ня ведаю.

Гэты Антоні быў сапраўдны халуй. Давялося мне з ім пабіцца. Прыехаў аднекуль Антоні, а я біў дровы для кухні. "Ян, ідзь адлож коня!" Гэта значыць, каб ішоў і распрог яго каня. А я яму адказаў так: "Ты і сам не вялікі пан. Ты ездзіў, сам і адкладай!" – "Пан не пан, а пана варты". – "Свінапас", – сказаў я яму.

Тут ужо капрал не стрымаўся і стукнуў мне па шчацэ. Але я яго не баяўся, бо быў дужэйшы. Схапіў яго за карак, паваліў на калючы дрот ад плоту і давай таўчы.

Мая каханая Зося пабегла да пана і кажа: "Антоні б'ець Яна". Бачу бяжыць да нас паручнік. Я кінуў яго біць. Антоні схапіў кол з плоту і за мной. На маё шчасце, дзверы да пані былі адчыненыя і я кінуўся туды. Пані зачыніла дзверы за мной. Мыслінскі даў па мордзе капралу Антонію, а пасля і мне. На гэтым і быў увесь суд. Здачы пану я не мог даць, бо ён, маючы рэвальвер, мог мяне і застрэліць, гэта было б у яго правах.

**Успаміны запісаны Сымонам БАРЫСАМ 5 снежня 1962 года ў Яраслаўлі і потым дапоўненыя ў пачатку 1970-х гадоў Сымонам БАРЫСАМ.**

**Заканчэнне будзе.**

КАЛЯНДАР

14 КАСТРЫЧНІКА
**Дзень маці**

16 КАСТРЫЧНІКА
**120 гадоў** назад (1896) памерла Марыя Багдановіч (дзявочае Мякота,) маці Максіма Багдановіча. Пахаваная на старых праваслаўных могілках у Гродне. Нарадзілася ў г. Ігумен, цяпер Чэрвень (1869 г.).

17 КАСТРЫЧНІКА
**115 гадоў** з дня нараджэння Сямёна Шольнікава (1901 – 1977), мастака-грымёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. У 1923 – 30 гадах вучыўся ў вядомага мастака Ю.Пэна. Ад 1941 і да 1971 года працаваў у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя Горкага. Адначасова ў 1960 – 1977 гадах выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Працаваў над стварэннем партрэтнага грыму Леніна для народнага артыста СССР Паўла Маўчанава, народных артыстаў БССР Дзмітрыя Арлова і Анатоля Генералава.
**1976 год.** У Бэнтан-Харбар (Мічыган, ЗША) памёр Радаслаў Астроўскі, грамадска-палітычны дзеяч, педагог, прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады, дзеяч эміграцыі ў Германіі, Вялікабрытаніі і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).
**320 гадоў** з дня нараджэння (1696) Аўгуста III, караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя літоўскага (1733-1764 гг.).

18 КАСТРЫЧНІКА
**25 гадоў** з дня смерці Пятра Бітэля (19.06.1912 – 18.10.1991 гг., в. Вішнева Валожынскага раёна), беларускага паэта, перакладчыка.
**110 гадоў** назад (1906) нарадзіўся Алесь Салагуб (в. Зарудзічы, цяпер Смаргонскі раён), паэт, публіцыст.
**1991 год.** Вярхоўны Савет прыняў Закон "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь".

19 КАСТРЫЧНІКА
**110 гадоў** з дня нараджэння Марыі Жыдовіч (1906–1977), мовазнаўцы, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.
**80 гадоў** з дня нараджэння (1936) Эдуарда Гарачага, акцёра, заслужанага артыста Беларусі.

20 КАСТРЫЧНІКА
**110 гадоў** з дня нараджэння Канстанціна Быліча (1906–1944), акцёра, заслужанага артыста Беларусі. Ад 1925 года працаваў у Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры, ад 1937-га – у БДТ-1 (тэатр імя Янкі Купалы). Загінуў у чыгуначнай катастрофе.
**1506 год.** На княжанне ў Вялікім Княстве Літоўскім абраны Жыгімонт І Стары.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# 80% мужчын, якія сужытнічаюць, лічаць сябе халасцякамі

## І толькі 20% жанчын адзначаюць, што свабодныя




**Амаль кожная з прадстаўніц прыгожага полу імкнецца да сямейнай утульнасці, таму са шлюбам праблем не ўзнікае. Другая ж палавіна часта задаецца пытаннем, а ці сапраўды мне гэта трэба.**

Мы паразмаўлялі з начальніцай аддзела ЗАГС Маладзечанскага райвыканкама **Алай Івашкевіч**, каб даведацца прычыны, па якіх трэба зрабіць адносіны законнымі:

### 1. Вызначаюцца паводзіны з боку супрацьлеглага полу

Зразумела, калі жанчына альбо мужчына ў шлюбе, то пытанні, як паводзіць сябе з супрацьлеглым полам, адпадаюць самі сабой. Адпаведна, і супрацьлеглы пол не будзе глядзець на вас як на аб'ект увагі.

– Большасць мужчын, якія сужытнічаюць, лічаць сябе халасцякамі, – адзначае Ала Івашкевіч. – Быў эксперымент. Калі ў мужчын, якія сужытнічаюць, пыталіся наконт сямейнага статуса, 80% адзначалі – халасты. Сярод жанчын толькі 20% сказалі, што яны свабодныя. Такая форма адносінаў зніжае ўзровень адказнасці як мужчын, так і жанчын.

### 2. Мяняюцца адносіны паміж сваякамі

– Калі ў свабодных адносінах большасць сваякоў і нават бацькі не ўспрымаюць вашу другую палавінку ўсур'ёз, маўляў, сёння адзін, заўтра другі, – разважае начальнік ЗАГСа. – То, зарэгістраваўшы адносіны, з меркаваннем вашай другой палавінкі нельга не лічыцца, бо яна ўжо паўнапраўны член сям'і.

### 3. Шлюб – гэта падтрымка ў цяжкую хвіліну

– У жыцці шмат выпадкаў, калі і сябры, і калегі адварочваюцца ад вас, калі здараецца нешта надзвычайнае. То ў сям'і вы заўсёды знойдзеце падтрымку, паразуменне. Нават самыя простыя, але шчырыя словы могуць падштурхнуць да дзеяння, дапамогуць "трымаць нос па ветры", – адзначае спецыяліст ЗАГСа.

### 4. Шлюб – гэта працяг кахання

– Адразу паміж закаханымі людзьмі – жарсць, – расказвае Ала Івашкевіч. – З цягам часу любімы чалавек становіцца настолькі блізкім, як родныя бацькі, і яго боль мы пачынаем успрымаць нават больш, чым сваю. У сталым узросце каханне перарастае ў клопат.

5. У шлюбе партнёры растуць над сваімі хібамі, вучацца лепшаму.

– Зразумела, калі людзі жэняцца, яны спачатку як бы з розных палічак – маюць розныя сямейныя каштоўнасці, выхаванне, жыццёвыя прынцыпы. А ў шлюбе вы вучыцеся жыць разам, прыстасоўвацца адзін да аднаго, змагацца са сваімі хібамі, – разважае спецыяліст. – І калі вам удасца спалучыць гэтыя палічкі, то сям'я будзе шчаслівай. А да гэтага трэба імкнуцца.

### 6. Да сямейных людзей ставяцца з большай павагай

– Ва ўсе часы статус замужняй жанчыны быў вышэйшы, – адзначае Ала Івашкевіч. – Высокія пасады прапануюць жанатым людзям, маўляў, калі ўмеюць кіраваць сям'ёй, значыць, і з калектывам справяцца, да работы будуць ставіцца больш адказна.

### 7. Жанчына ў шлюбе адчувае сябе больш упэўнена

– Бываюць вельмі прыніжальныя выпадкі для жанчын, якія не замужам і маюць дзіця, – адзначае псіхолаг **Настасся Еўдакіменка-Лісоўская**. – Спачатку ў радзільні, пасля ў камунальных службах, у паліклініцы, дзіцячым садку. Паўсюль спытаюцца, хто бацька, папросяць паказаць пасведчанне аб шлюбе. І навошта патрэбныя нялоўкія тлумачэнні пра вашы свабодныя погляды, навошта бачыць асуджальныя кіўкі цётачак каля пад'езда, маўляў, а ці ёсць у цябе муж ці бацька, што вы хаваеш дзіця адна.

### 8. Чыста фізічна шлюб утрымлівае ад разладу ў сям'і

– Часта маладыя людзі пры першай жа спрэчцы пагражаюць разводам, – заўважае Ала Івашкевіч. – Аднак так званы штамп у пашпарце ўтрымлівае, каб скасаваць шлюб. Чыста фізічна чалавеку трэба зайсці ў ЗАГС альбо суд, напісаць заяву, а пакуль ён будзе збірацца, ісці, можа пераасэнсаваць сітуацыю, зрабіць крокі да прымірэння.

### 9. Дзіця ведае, хто яго рэальны бацька па дакументах

Калі пара не ў шлюбе пры нараджэнні дзіцяці, абое бацькоў пішуць заяву, каб устанавіць бацькоўства і ўпісаць дадзеныя ў пасведчанне аб нараджэнні. Аднак не заўсёды бацькі згодныя ўстанавіць бацькоўства.

### 10. Вырашаюцца праблемы з маёмасцю

– У сямейных людзей, асабліва калі яны маюць дзяцей, большыя перавагі, каб рухацца ў чарзе на жыллё, атрымаць пакой у інтэрнаце, – расказвае спецыяліст ЗАГСа. – Калі ў вас ёсць сумеснае жыллё, то заканадаўства абараняе кожнага члена сям'і ў выпадку разводу.

### 11. Павянчацца ў царкве нельга без пасведчання аб шлюбе

– У 90-я гады былі выпадкі, калі мужчына яшчэ афіцыйна не разышоўся з першай жонкай, а ў царкве ўжо павянчаўся з іншай жанчынай, – дзеліцца досведам спецыяліст. – Як кажуць, і авечкі цэлыя, і ваўкі сытыя. Ведаючы гэткія прыклады, царква стала адмаўляцца ад такой практыкі.

### 12. Шлюб – сцвярджэнне таго, што ў вас усё агульнае

– Цяпер іншае стаўленне да шлюбу, да законных адносінаў, – падводзіць рысу Ала Івашкевіч. – Калі раней жаніліся, то думалі, што гэта на ўсё жыццё, стараліся пераадольваць разам усе праблемы, знайсці паразуменне адзін з адным. Цяпер моладзь больш свабодна ставіцца да шлюбу, праз гэту свабоду і разбураецца інстытут сям'і. Законныя адносіны не абмяжоўваюць нашу свабоду, наадварот, пашыраюць. Толькі не кожны можа гэта зразумець.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

ТЭМА НУМАРА

# Мама ў нас паслухмяная, і мы паслухмяныя ў мамы

## Як жыве, расце і вучыцца знакамітая ашмянская чацвярня

АШМЯНЫ

**“Чацвёра ў калысцы” – так называўся матэрыял, надрукаваны ў “Рэгіянальнай газеце” амаль сем гадоў таму.**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

На Вадзіма, Кірыла, Ірыну і Карыну Лукашэвічаў пазірае шчаслівая матуля.

Напярэдадні Дня маці мы сустрэліся з героямі нашай колішняй публікацыі – чацвярнёй з Ашмянаў і іх мамай **Марыяй Лукашэвіч**.

Сустрэлі нас ужо першакласнікі **Кірыл**, **Вадзім**, **Ірына** і **Карына**. Адразу павялі да сябе ў пакоі.

У хлопцаў усё як мае быць: машыны і канструктары. Нават музычны інструмент – іоніка. Праўда, іграць пакуль не навучыліся.

У пакоі дзяўчат – усё ў ружовых тонах. А на дзвярах і сценах вялікія налепкі з прынцэсамі.

Брацікі і сястрычкі ходзяць у адзін клас. Здаецца, знешне яны не вельмі падобныя.

Ірына бялявая з блакітнымі вачыма. Кажа, што ёй падабаюцца доўгія валасы.

А вось Карыне нядаўна зрабілі стрыжку. Новая прычоска вельмі пасуе да яе карых вачэй і смуглявага тварыку.

Па словах Марыі, знаёмыя заўважаюць, што да Карыны крыху падобны чарнявы Вадзім. А ў Кірыла шмат агульнага з Ірай.

### Калі дома ціха, значыць, дзеці яшчэ ў школе

1 верасня Лукашэвічы пайшлі ў школу. Яна побач. І гэта вельмі зручна.

Выхавальніца ў групе падоўжанага дня **Вольга Міхайлаўна** пакуль яшчэ блытае дзяцей.

Дзяўчынкі ўжо крыху ўмеюць чытаць. Карына навучылася сама. Хлопцы ж – пакуль не. Але затое Кірыл і Вадзім ходзяць на футбол і на спевы.

Кірылу і Карыне ў школе падабаецца пісьмо. Вадзіму – матэматыка, Ірыне – маляванне. Урокі ў першым класе задаюць толькі на выхадныя. Дзеці робяць іх па чарзе з мамай ці бабуляй **Рэгінай**.

Мама прызналася, што калі ў кватэры ціха, дзеці або глядзяць мульцікі, або яшчэ не прыйшлі са школы.

– Калі ж мы прыходзім са школы, то чуюць усе суседзі, – з усмешкай кажа Марыя.

Часам яшчэ і сябрыаднагодкі ідуць у госці. А сябры ў кожнага свае. Тады ўвогуле весела.

Ёсць у дзяцей і мары пра будучую прафесію. Праўда, яны часта мяняюцца. Хлопцы яшчэ нядаўна хацелі стаць салдатамі. Цяпер Кірыл бачыць сябе гоншчыкам, а Вадзім – кіроўцам. Яшчэ варыянт – стаць міліцыянерамі і “ганяць на байках”.

Дзяўчаты хочуць працаваць дактарамі.

### Клапатлівая бабуля, якую не прагнаць ад пліты

З самага нараджэння дзяцей Марыне дапамагае гадаваць мама. Часам сустракае ўнукаў са школы. У будныя дні заўсёды гатуе.

– Пойдзем, прагонім бабулю ад пліты. Няхай з намі сфатаграфуецца, – крыкнулі хлопцы і пабеглі на кухню.

Але адцягнуць бабулю ад пліты ў іх усё ж не атрымалася.

Бацькі чацвярні дома не было. Мы сустрэліся з ім на пароге. Мужчына спяшаўся на працу.

Марыя прызнаецца, што пасля дэкрэтнага адпачынку вельмі хацела на працу. Цяпер яна бухгалтар на мясакамбінаце. На працы як шматдзетная мама мае адзін вольны дзень на тыдзень.

Кажа, часта здараецца так, што дзеці па чарзе пачынаюць хварэць. Тады з аднаго бальнічнага прыходзіцца ісці на другі, пасля – на трэці. Але кіраўніцтва на працы ставіцца да гэтага з разуменнем.

Часу на сябе, дзеліцца Марыя, застаецца мала. Але яна змагла вывучыцца і атрымаць правы кіроўцы. Бо па-іншаму ў яе сітуацыі проста немагчыма: паліклініка, садок, летні адпачынак.

Летам дзеці разам з бацькамі былі на возеры, у вёсцы ў прабабулі. Вельмі эмацыйна расказалі пра тое, як ездзілі ў аквапарк.

– У ваду там можна з’язджаць з дзвюх горак, – дзялілася ўражаннямі Ірына. Для дзяцей ёсць маленькая, для дарослых – вялікая. А ведаеце, мы з’язджалі з той, якая... для дарослых! І не баяліся. Побач жа былі мама з татам.

### Дзень нараджэння адзначаем, як вяселле

Адзін на чацвярых дзень нараджэння 5 лістапада кожны год адзначаюць шыкоўна. Як вяселле, кажа Марына. Спецыяльна нават нікога не запрашаем, але ахвотных павіншаваць чацвярню заўсёды шмат.

Дзень шчаслівай мамы пачынаецца прыкладна ў 6:50. Ад 7:00 пачынае будзіць дзяцей. За 20 хвілін усе прачынаюцца.

Часам здараецца наадварот: дзеці раніцай прыходзяць будзіць бацькоў. Да 8:30 Марыя або яе муж **Уладзімір** вядуць дзяцей у школу, пасля ідуць на работу.

Увечары дзеці павінны пераапрануцца, акуратна скласці школьную форму. А раз урокаў пакуль не задаюць, хлопчыкі і дзяўчынкі адпачываюць.

Яны любяць гуляць у канструктар і глядзець мульцікі. А яшчэ гуляюць у камп’ютарныя гульні. Толькі бацькі ўпэўненыя: камп’ютар – рэч спакуслівая, ды не карысная. Таму кожнаму пасля школы дазваляюць пагуляць толькі паўгадзіны.

Хлопцы паказалі свой планшэт. Нават паспрабавалі навучыць нас гульням. Праўда, безвынікова.

**– А ці дзеліцеся вы з сястрычкамі планшэтам**, – пытаюся ў хлопцаў.

– Не, навошта, – адказвае Вадзім. – У іх камп’ютар свой ёсць. І тут жа – да Карыны:

– А пакуль вы ў школе былі, я ў ваш камп’ютар гуляў!

Усе чацвёра любяць катацца на раварах. Але, як прызнаўся Вадзім, тры пакуль паламаныя. Карыстаюцца адным па чарзе.

На пытанне, ці часта да іх прыязджаюць журналісты, Марыя згодна ківае. А Іра ўздыхае і выдае:

– Нават не ведаю, калі гэта скончыцца.

### Мама пра дзяцей

– Цяпер з імі куды лягчэй. Нават не параўнаць з тым часам, калі толькі нарадзіліся.

**Кажуць, да трох год дзяцей нельга караць, нельга крычаць на іх. Я так і рабіла. Аднак цяпер разумею, што, можа, і дарма.**

Бо часам ад дзяцей хочацца большай паслухмянасці. Біць іх не б’ю, але прыходзіцца і прыкрыкнуць. Напрыклад, каб прыбралі за сабой.

Ва ўсіх ёсць свае абавязкі. Па суботах яны павінны заслаць ложкі, падмесці кожны ў сваім пакоі, памыць падлогу. Часам пасля такой прыборкі мне трэба перамываць, але ж справа не ў гэтым. Няхай і яны адчуваюць, што маюць адказнасць.

Карына больш часу любіць праводзіць на кухні. Ёй цікава, як мы з бабуляй гатуем, што дадаём у стравы.

Ірына ж, наадварот, больш сябруе з хлопцамі, гуляе з імі ў футбол.

Лідар з іх, напэўна, Кірыл. Калі ён глядзіць мультфільмы, усе глядзяць разам з ім.

Дамашняй працы, вядома, шмат. Часам не памятаю, чыя, напрыклад, сукенка або кашуля. Але дзеці заўсёды ведаюць свае рэчы, падказваюць мне.

Як бы ні была занятая, вечарам заўсёды знаходжу час падысці да кожнага, пацалаваць і пажадаць добрай ночы.

### Дзеці пра маму

Кірыл:

– Мама ў нас прыгожая. Часам, калі мы яе не слухаем, яна можа злавацца.

Вадзім:

– Мама добрая. Заўсёды адпускае нас пагуляць на вуліцу, пакатацца на ровары. Я люблю маму.

Ірына:

– Мама наша цудоўная, але і строгай бывае часта. Напрыклад, калі я нешта не зраблю: не падмяту ці не прыбяру свае рэчы.

Карына:

– Мама заўжды паслухмяная. Робіць усё, пра што мы яе папросім. І мы стараемся быць паслухмянымі ў мамы.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)




## Хочаш "лайкаў" – калі ласка, у трэнажорную залу

**"РГ" сумесна з фітнес-клубам "Тытан" запусціла праект "Зорка з трэнажоркі".**

**Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**

Самае галоўнае ў любой справе – гэта самаматывацыя і растрындзець як мага большай колькасці людзей пра свой намер.

Зрабіла я гэта для таго, каб не сарвацца і не паддацца спакусе з'есці што-небудзь забароненае. А так усе дбаюць, сочаць, чакаюць выніку, які будзе заўважны.

Першую параду наконт харчавання я атрымала ад **Руслана Дунца** яшчэ перад першай трэніроўкай.

– Адмоўцеся ад солі. Той уласнай солі, якая ўтрымліваецца ў мясе ці гароднінe, будзе дастаткова.

Руслан абяцаў мне, што першыя кілаграмы два-тры ў мяне знікнуць з-за таго, што соль не будзе ўтрымліваць ваду ў маім арганізме.

Рацыён давядзецца таксама перагледзець. Без гэтага спадзявацца на вынік бессэнсоўна.

У чацвер з майго рацыёну знікла ўсё салодкае, мучное і смажанае.

Затое ў яго ўвайшлі курыная грудка, бракалі, тварог, кефір, садавіна і гародніна. Ну, як увайшлі… Пакуль трымаюся толькі другі дзень.

Другі важны пункт, каб змяніцца да лепшага, – фізічныя нагрузкі.

– Той, хто вырашыў займацца ў трэнажорнай зале, – расказвае Руслан, – павінны спачатку падрыхтаваць арганізм да высокіх фізічных нагрузак. Для гэтага перад пачаткам трэніроўкі трэба разагрэць мышцы.

У пачатку трэніроўкі хвілін 10 трэба разагрэцца на бегавой дарожцы ці велатрэнажоры.

І толькі потым пераходзіць да асноўнай фізічнай нагрузкі.

Трэнер раіць чаргаваць сілавыя нагрузкі, калі практыкаванні робіцца на трэнажорах або з гантэлямі і штангай, і кардыётрэніроўкі. Калі ўмацоўваецца сардэчнасасудзістая сістэма. Кардыё – гэта бег, ровар, плаванне.

Цяпер некалькі слоў пра атмасферу ў зале. Калі вы думаеце, што да вас там камусьці ёсць справа – вы памыляецеся.

Кожны наведнік прыходзіць займацца сабой і ніхто на вас пальцам паказваць не будзе.

У "Тытане" працуюць сем трэнераў. Вось ім якраз-такі да вас справа ёсць.

Цэлы дзень у клубе дзяжурыць трэнер, які падкажа вам, як карыстацца тым ці іншым трэнажорам.

Але спецыялісты раяць мець свайго ўласнага трэнера, хаця б на першыя 5-7 заняткаў. Бо праграма вашых трэніровак удасканальваецца з кожным разам. І неабходна, каб спецыяліст кантраляваў увесь працэс.

Самы вялікі зман – гэта тое, што з трэнажорак усе дзяўчаты выходзяць Шварцэнегерамі.

Прынамсі, Руслан не бачыў яшчэ ні адной дзяўчыны, якая толькі адными фізічнымі нагрузкамі зрабіла б сабе цела бодзібілдэркі.

– Затое бачыў дзяўчат, якія пасля заняткаў у спартыўнай зале пачалі ў сваім "Інстаграме" збіраць па 2000 "лайкаў" за новую фігуру.

У наступным нумары Руслан раскажа, што браць з сабой на трэніроўкі, што есці перад і пасля трэніроўкі. А я паспрабую падлічыць, у якую суму абыходзіцца мне здаровы лад жыцця.



# "Футбол – тэатр. Гуляюць у ім артысты"

## Слоўнік выразаў Віталя Жукоўскага

МАЛАДЗЕЧНА

**Блізіцца да завяршэння першы сезон футбольнай каманды "Іслач", які яна адыграла на маладзечанскім стадыёне.**

За гэты сезон маладзечанцы паспелі прывыкнуць і да футбола, і да талісмана каманды. Адзінае, да чаго прывыкнуць немагчыма, гэта да выразаў падчас прэс-канферэнцый галоўнага трэнера і па сумяшчальніцтве галоўнага шоумэна – **Віталя Жукоўскага.**

Мы склалі слоўнік выразаў, якімі за гэты сезон здзівіў і парадаваў сваіх заўзятараў кіраўнік футбольнага клуба "Іслач".

**А**

**"Адмазаць Саню"**

Слова "адмазаць" з'явілася ў лексіконе Жукоўскага, калі паўабаронца каманды **Аляксандр Шагойка** забіў аўтагол у матчы з Віцебскам. Тады гэты гол перакрэсліў "сухія" вароты "Іслачы" папярэдніх трох гульняў. Віталь Жукоўскі прасіў каманду "адмазаць Саню", інакш кажучы, падтрымаць яго, бо той гол атрымаўся выпадкова.

**Б**

**Бардак**

– Футбол ператварыўся ў бардак, – так Віталь Жукоўскі ахарактарызаваў першы буйны пройгрыш каманды салігорскаму "Шахцёру". 20 чэрвеня каманда "Іслач" саступіла з лікам 3:0.

**В**

**"Вышэй за сабаку"**

Трэнер каманды параўнаў невысокіх футбалістаў з тымі, хто "крыху вышэй за сабаку". І сказаў, што такім, як Лебедзеў, часу прыйсці ў форму пасля траўмы патрабуецца больш.

**Ё**

**Ёперны тэатр**

Так Жукоўскі адгукнуўся пра каэфіцыенты на матчы, калі дагаворныя матчы яшчэ не датычыліся "Іслачы".

– Я ніколі раней не залазіў па шыю на гэтыя стаўкі, а зараз гляджу, як каэфіцыенты мяняюцца! "Ёперны" тэатр, а раптам у мяне зменіцца нешта? Закрануць можа кожнага! – "накаркаў" Віталь Жукоўскі.

**К**

**Коўч**

– Эй, коўч, чаго гэта ты маладым не давяраеш?

Так Віталь Жукоўскі прапанаваў спытаць любога заўзятара ў яго, калі раптам нехта заўважыць, што трэнер не выпускае маладых гульцоў на поле.

**Н**

**"На тоненькага"**

Калі "Іслач" толькі прызвычайвалася да таго, што яны цяпер каманда вышэйшай лігі, і каманда займала вышэйшыя радкі ў турнірнай табліцы, Віталь Жукоўскі баяўся сурочыць, таму называў гульні каманды "на тоненькага". Гэта значыць, недзе камандзе дапамагае шанцаванне, недзе якасці байца, а недзе проста эмоцыі. "Тоненька" ўсё было ў пачатку сезона.

**П**

**"Піда*гі"**

**Віталь Жукоўскі пасля паражэння ад БАТЭ (1: 4) 2 кастрычніка адказаў на пытанне пра разрыў партнёрскіх адносін з сеткай рэстаранаў KFC. Сетка рэстаранаў адмовіла камандзе ў падтрымцы пасля скандалу з дамоўнымі матчамі.**

Акрамя таго, трэнер назваў гульцоў, якія замешаныя ў арганізацыі дамоўных матчаў – піда*гамі і заявіў, што з-за скандалу вакол дамоўнай сустрэчы папрасіць начальства аб адстаўцы.

**Р**

**"Распрануцца"**

– Я гатовы распрануцца, як гэта цяпер модна, абы людзі прыходзілі на стадыён, – прызнаўся Віталь Жукоўскі тады, калі ўзніклі праблемы з тым, што не ўсіх балельшчыкаў пусцілі на стадыён, бо быў занадта жорсткі кантроль.

**С**

**"Сабака ў будцы"**

–Ладна, мы б гулялі, быццам "сабака ў будцы", – сказаў Віталь Жукоўскі пасля гульні з "Нёманам", – а то гуляем у атаку. А забівац не атрымоўваецца.

**Т**

**"Трэсці"**

Пасля першага пройгрышу на маладзечанскім стадыёне камандзе з Брэста, Віталь Жукоўскі прызнаваўся, што яго "трасе" ад таго, што каманда гуляе перад сваімі заўзятарамі.

**Ф**

**"Фарціць"**

Пасля трох дамашніх гульняў, у якіх каманда "Іслач" змагла здабыць толькі адно ачко, Віталь Жукоўскі сказаў, што гэта проста саперніку фарціць. І прапанаваў ім аплачваць арэнду стадыёна.

**Х**

**Хоць Буба Касторскі**

– Па мне, хоць Буба Касторскі той гол забіў, абы ён быў рабочым, – пракаментаваў забіты гол у вароты мінскага "Дынама" трэнер "Іслачы", калі было незразумела, хто ж стаў аўтарам – Алумона ці Цішкевіч.

**Я**

**Ялінка**

Згуляць "ялінкай". Так Віталь Жукоўскі назваў гульню з "Крумкачамі", у якой згулялі пяць цэнтральных паўабаронцаў. Так "Іслач" абаранялася ад каманды, якая моцная ў сярэдзіне поля.

Бліжэйшы дамашні матч "Іслач" згуляе 22 кастрычніка.

**Наталля ТУР.**



ГАРАСКОП
14-20 КАСТРЫЧНІКА

**Авен.** Каб быць на вышыні, не спадзявайцеся толькі на лёс, самі прыкладайце намаганні над сабой, не кідайце пачатае на палове шляху.

**Цялец.** У вас буйшуюць эмоцыі і жарсці, зрабіце так, каб яны мелі станоўчае адценне. У іншым выпадку негатыўны настрой закрые радасці ў жыцці.

**Блізняты.** Не ўспрымайце свет у цёмных фарбах, нават калі наваліліся непрыемнасці літаральна з усіх бакоў. Уважліва прыгледзьцеся, ёсць тут і станоўчыя моманты. А калі будзеце зрываць незадаволенасць на іншых, то апошнія крупінкі шчасця пакінуць вас.

**Рак.** Дазвольце лёсу весці вас, не ўпарцiцеся ў нейкіх жаданнях. Вядзіце сябе некалькі інфантыльна, захоўвайце лёгкасць. Усім неабходным вы будзеце забяспечаныя, вас будуць акружаць спакой і раўнавага. Не супраціўляйцеся гэтаму. І тады ваша жыццё будзе працякаць ў поўнай гармоніі з сабой, прыродай і навакольным светам.

**Леў.** Радасныя і яркія падзеі, добры час для кампаній, сустрэч з сябрамі і правядзення святаў. Але не будзьце занадта даверлівымі.

**Дзева.** Перыяд спрыяльны, асабліва для актыўных і мэтанакіраваных людзей, а таксама для здзелак з маёмасцю.

**Шалі.** Не бярыце блізка да сэрца негатыў, не пускайце ў сябе дурныя думкі, аднясіцеся да ўсяго з лёгкасцю, і праблемы не будуць выглядаць так сур'ёзна. Прыступайце да рэалізацыі новых планаў, тады і новыя магчымасці адкрыюцца.

**Скарпіён.** Не лянуйцеся, у вас ёсць добрая магчымасць пачаць новую справу і закласці асновы для будучага росту.

**Стралец.** Прывядзіце сябе ў парадак. Вам добра было б проста расслабіцца. І падумайце пра далейшыя планы на жыццё, варта распачаць некаторыя дзеянні па іх рэалізацыі.

**Казярог.** Час сур'ёзных рашэнняў і бурнай дзейнасці. Вынікі ўбачыце не адразу, але неабходныя асновы будуць закладзеныя.

**Вадалей.** Перыяд актыўнасці і новых пачынанняў, за выключэннем таго, што вы будзеце падвержаныя сумненням. Ніякіх сумненняў – усё атрымаецца.

**Рыбы.** Не чакайце, калі розныя непрыемнасці пасыплюцца на вашу галаву, а дзейнічайце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## Атрымай смартфон за адно фота

"Рэгіянальная газета" сёлета шчодрая, як сама восень. І калі вы ніяк не можаце паўдзельнічаць у конкурсе "Дзясятачка", каб выйграць планшэт за выдатную вучобу, то далучайцеся да нашай акцыі "Не губляй ніводнага дня!"

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by свае самыя лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2016 год. Пакажыце, што вы карыснае і прыемнае захавалі ў сваім банку шчаслівых момантаў.

У конкурсе будзе два пераможцы. Адзін атрымае прыз глядацкіх сімпатый – лепшага ў гэтай намінацыі вызначым праз галасаванне на нашым сайце rh.by.

Другога чакае Гран-пры – менавіта яго здымак упрыгожыць штогадовы фірменны каляндар "Рэгіянальнай газеты". Гэтага пераможцу вызначаць работнікі "Рэгіянальнай газеты".

А ў дадатак абодва пераможцы атрымаюць у падарунак ад рэдакцыі смартфоны.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы з усяго рэгіёна ад 7 да 26 кастрычніка. 26 мы і размесцім на нашым сайце галасаванне за прыз глядацкіх сімпатый. 31 кастрычніка мы абвесцім пераможцаў конкурсу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гуляш, ад якога можна язык праглынуць



Я цяпер жыву вельмі далёка, але пастаянна чытаю ваш сайт. Дасылаю вам рэцэпт гуляшу, які часта гатую тут, ён напамінае мне пра радзіму.

**Гуляш**

Бярыце паўкілаграма свініны, можна кумпяк ці лапатку, наражце на кубікі, пасаліце, папярчыце, я яшчэ дадаю шмат усялякіх прыпраў, кары – абавязкова.

Тры сярэднія цыбуліны абіраю і ражу папалам і дробна ўздоўж, адну добрую морквіну. Абсмажваю на алеі спачатку цыбулю, як стане празрыстай, дадаю моркву. Трохі пасмажыўшы, дадаю мяса.

Усё абсмажваю на вялікім агні з аднаго боку, з другога. Пасля дадаю лыжку мукі, трохі смажу і перакладаю ўсё ў каструлю.

Заліваю мяса трыма шклянкамі гарачай вады, кладу лыжку смятаны, даводжу да кіпення і хай тушыцца на маленькім агні гадзінупаўтары.

Пад канец тушэння кладу ў страву лаўровы ліст. Можаце дадаць яшчэ 2-3 лыжкі таматнага соусу, гэта як вам падабаецца.

Падавайце гуляш з макаронай ці тоўчанай бульбай – пюрэ. Толькі будзьце асцярожныя – язык не праглыніце.

**Аляксей.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 9 | | 5 | | 6 |
| | | | 7 | | | 9 | | 4 |
| 8 | | | | 3 | | | | |
| | 7 | 9 | 8 | 1 | | | | |
| 3 | | 1 | 2 | | 4 | 8 | | 7 |
| | | | | 7 | 9 | 3 | 2 | |
| | | | | 4 | | | | 9 |
| 9 | | 6 | | | 7 | | | |
| 7 | | 3 | | 2 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Далучайцеся да конкурсу "Дзясятачка"

## Выйграй планшэт за выдатную вучобу

**У трэцім туры нашага конкурсу "Дзясятачка" перамагла Ганна Грыдзюшка з Маладзечна.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Марына Жаўняровіч з настаўніцай Вольгай Аляксандраўнай Петух з вілейскай гімназіі "Логас".

Шчаслівым аказаўся бланк з "10" па рускай літаратуры пяцікласніцы школы №14 . Дзяўчынка атрымае фірменныя падарункі ад "Рэгіянальнай газеты".

7 кастрычніка прадстаўнікі рэдакцыі ўрачыста ўручылі падарункі пераможцу другога туру конкурсу – вучаніцы 7 "А" класа вілейскай гімназіі "Логас" **Марыне Жаўняровіч**. Ёй пашанцавала з бланкам з "10" па беларускай мове.

Паважаныя бацькі і настаўнікі! Далучыце да конкурсу дзяцей і вучняў. Дзякуючы конкурсу ад "Рэгіянальнай газеты" "Дзясятачка" вы матывуеце школьнікаў выдатна вучыцца. Выхоўваеце разуменне, што добрымі ведамі можна зарабіць.

Рэдакцыя ўзнагародзіць удзельніка, які дашле найбольш бланкаў, і настаўніка, чые вучні будуць найбольш актыўна ўдзельнічаць у конкурсе.

У конкурсе могуць удзельнічаць вучні ўсіх класаў школ і гімназій з рэгіёна, у якім выходзіць "РГ". Для ўдзелу вам дастаткова выразаць бланк удзельніка, запоўніць і даслаць нам або прынесці ў рэдакцыю.

Адрас рэдакцыі: *222304, Мінская вобласць, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.* Зрабіце на канверце пазнаку **"10-ка".**

Конкурс праводзіцца ў некалькі тураў. Вынікі тыднёвых тураў мы падводзім па пятніцах у 15 гадзін. Чарговы розыгрыш пройдзе 14 кастрычніка ў рэдакцыі "РГ". У ім будуць удзельнічаць бланкі, атрыманыя да 15 гадзін гэтага дня. Пераможцу мы абяром, выцягнуўшы адзін з бланкаў усляпую. Удзельнікі пры гэтым могуць прысутнічаць.

Бланкі, атрыманыя пасля 15 гадзін 14 кастрычніка і да 15 гадзін 21 кастрычніка, будуць удзельнічаць у розыгрышы чацвертага тура.

Абсалютна ўсе атрыманыя ад 16 верасня да 28 кастрычніка бланкі будуць удзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта.

Яшчэ адзін падарунак мы прапанавалі для цэлага класа. На нашым сайце rh.by 8 кастрычніка размясцілі галасаванне за класы, якія прадстаўляюць удзельнікі конкурсу. Той, які набярэ найбольш галасоў, выйграе паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Да ўдзелу дапускаюцца толькі выразаныя з газеты бланкі. Удзельнікам можа стаць вучань, які атрымаў у гэтым навучальным годзе адзнаку "9" ці "10" па любым прадмеце. Колькасць дасланых заявак неабмежаваная, але толькі раз з адной адзнакай і толькі адну адзнаку можна ставіць у адзін бланк.

У графе "подпіс настаўніка" папрасіце паставіць подпіс настаўніка, які паставіў вам адзнаку.

**Жадаем вам поспеху і выдатнай вучобы!**

### Бланк удзельніка конкурсу "Дзясятачка" (№41)




•Імя, прозвішча ____________

•Дата нараджэння ____________

•Клас ____________
•Школа ____________

•Населены пункт ____________

•Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________

•Прадмет, за які атрыманы бал ____________

•Які бал атрымаў ("9" ці "10") ____________
•Дата, калі быў атрыманы бал ____________
•Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________
•Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________

•Подпіс настаўніка ____________



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ISSN 1991-7155

Тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015


## НАДВОР'Е

**15 кастрычніка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 | | +2 | | +2 | | 0 | |
| | +1 | | +5 | | +4 | | +2 | |
| | 751 | ↙ 2 | 753 | ← 3 | 757 | ↖ 2 | 759 | ↑ 3 |
| Вільня | +1 | | +2 | | +4 | | +3 | |
| | +1 | | +4 | | +5 | | +4 | |
| | 761 | ↖ 1 | 762 | ↑ 4 | 765 | ↖ 2 | 767 | ↑ 5 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.42
Захад 18.13
Даўжыня дня 10.31

Усход 18.17
Захад 6.10
Поўня




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -5,3 °С у 1959 годзе
Максімальная тэмпература + 20,7 °С у 1969 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 23,5 мм у 1971 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

**Яны заклікаюць нас берагчы планету ад смецця. Пераконваюць у прыгажосці беларускай мовы. Кожны ранак праводзяць на працу вачыма знакамітых землякоў. Гэта… Білборды. Як падбіраюцца фотаздымкі, слоганы, сюжэты да іх? Хто яны — людзі з білбордаў? І ці можна з дапамогай білборда прызнацца ў каханні? Шукайце адказы ў наступным нумары "РГ".**

Шмат
• фота
• відэа
• навінаў
шукайце штодзень на сайце "РГ"
Rh.by



## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Маладзечанка стала прычынай ДТЗ, у якіх ДАІ разбіралася два дні**

Толькі Наталля са звычайнага ДТЗ можа зрабіць сапраўдны дэтэктыў. ***Саша.***

**Ці пазнаеце вы маладзечанскіх футбалістаў на старым фотаздымку? (Фотафакт)**

Вельмі цікава. Адно толькі пытанне: "РГ" звяртаецца да архіваў, бо газеце нецікавая сённяшняя каманда? Вельмі даўно ўжо на вашым сайце нічога не чуваць пра "Маладзечна-ДЮСШ-4" у гэтым сезоне. А між тым, каманда, здаецца, нядрэнна гуляе… ***Сучаснік.***

**Зорка з трэнажоркі. Худзеем разам з Наталляй Тур**

Круты праект! Наташа, не падвядзі! Усё, і я пачынаю з панядзелка худзець. ***ЛЕРА.***

**Гэта не лічба з неба, а здароўе нацыі: у Маладзечне праводзяць вакцынацыю супраць грыпу.**

Не разумею, гэта ўніверсальная вакцына ад усіх відаў грыпу? Я супраць. Адзіны раз дачка захварэла зімой. Гэта было якраз тады, калі зрабілі прышчэпку. На мой погляд, такія працэдуры зніжаюць абаронныя функцыі арганізма. ***Святлана Урбановіч.***

Капусту трэба есці, а не прышчэпкі рабіць. ***Аляксей Сак.***

**Васьмікласніцу з Маладзечна насмерць пераехаў грузавік, калі яна была на бульбе**

У савецкія часы ўсе старшакласнікі ездзілі на ўборку бульбы і морквы. А цяпер для беспрацоўных і пенсіянераў хапае гэтай працы. Вось чаму школьнікаў пагналі на поле? ***Беларусь і я.***

Кіроўцы – турма. А дзіцям бацькам не вярнуць. ***Галіна Спрогне.***

Я на бульбе быў з 7 класа. Таксама дапамагалі ўбіраць ураджай, хоць ты школьнік, хоць студэнт. А цяпер што? Рукі адваляцца?

**Невядомыя пашкодзілі помнік на Вілейшчыне**

Трэба ж! Варварства не прыпыняецца. Моцныя яшчэ перажыткі антысемітызму. Хаця ўсё мяняецца. І ў Ізраілі надыходзіць Судны дзень. ***Наталля Штэйнер.***

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Мама, а вы з татам піянерамі былі?
– Былі.
– А што вы рабілі?
– Збіралі макулатуру і металалом.
– Як бамжы?

***

– А ты прыгожая! Давай сустрэнемся.
– Не. Я прыгожая толькі ў інтэрнэце.

***

Прыходзіць мужчына ў аптэку:
– Скажыце, што ў вас ёсць ад горла?
Аптэкарка пералічвае, мужчына запісвае.
– А што ад болю ў вуху?
Аптэкарка пералічвае, мужчына запісвае.
– А для носа што ёсць?
Аптэкарка не вытрымлівае:
– Мужчына, ці не лягчэй звярнуцца да лора ?
– Не лягчэй, я сам лор.

***

Аказваецца, чым старэйшае дзіця, тым прасцей сабраць яго ў школу. Сын-дзевяцікласнік заявіў, што яму не трэба нічога купляць. У яго да школы ўжо ёсць палова алоўка з таго года і пара сшыткаў, а ручку, кажа, я на падлозе ў класе знайду.

***

Вось скажы, што паміж намі агульнага? Я люблю шумныя кампаніі, ты – сядзіш дома. Я люблю фільмы, ты – у кутку кніжку пачытаць. Я люблю Высоцкага, ты яго не любіш. Я люблю котак, ты – сабак. Я люблю футбол, ты яго ненавідзіш… Ну скажы, што ў нас агульнага?
– Дзеці.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Кім вы ніколі не сталі б працаваць?

**Наталля Аскірка, прадавачка:**
– Ніколі не стала б працаваць дворнікам. Холадна і няёмка неяк.



**Вольга Жгірава, навучэнка:**
– Доктарам. Асабліва хірургам. Адказнасць велізарная, а грошы маленькія.



**Яўгенія Зянюк, навучэнка:**
– Не стала б настаўніцай. Нерваў шмат, грошай мала. Ды і дзеці цяпер такія – проста "вынас мазгоў".



**Андрэй Фралоў, музыкант:**
– Колькі сябе памятаю, з самага дзяцінства я заўсёды з музыкай. Не думаю, што змог бы стаць кім-небудзь акрамя музыканта.



**Надзея Новаш, навучэнка:**
– Ніколі не стала б праграмістам. Гэтая прафесія больш хлопцам падыходзіць. Адна справа ў "Аднакласніках" пасядзець і зусім іншая – "вінду" пераўсталяваць.



**Аксана Гунько, прадавачка:**
– Дакладна не стала б доктарам. Я вельмі паважаю людзей гэтай прафесіі. Але сама баюся крыві.



**Уладзіслаў Апанасевіч, студэнт:**
– Настаўнікам не стаў бы. Гэта прафесія, якая шмат нерваў адбірае.



**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№42 (1120) 14.10.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 993. Падпісана ў друк у 9.00 13.10.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.